# КУР'ЕР Палесся

ШТОМЕСЯЧНАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ГРАМАДСКА - ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

N 2
IX. 2000


**У нумары:**



# НЕ МАЎЧЫ, КАЛІ КАТУЮЦЬ ДРУГОГА! НАСТУПНЫМ БУДЗЕШ ТЫ!


*(падрабязнасці на стар. )*



Выдавец і рэдактар Андрэй Яўтуховіч .На правах рукапісу. Тыраж 299 асобнікаў. Бясплатна. Адрас рэдакцыі: вул. Валадарскага 33а, г. Петрыкаў, Гомельская вобл., 247940, Рэспубліка Беларусь. Тэл. (02350) 22 505

## Насустрач выбарам

Петрыкаўскі раён перастаў быць самастойнай выбарчай акругай, панізіўшы такім чынам свой статус на парадак. Згодна са зменамі і дапаўненнямі ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, за якія несвядома прагаласавала большасць выбаршчыкаў Петрыкаўскага раёна на рэферэндуме 1996 года, колькасць дэпутатаў беларускага парламента зменшылася да 110. Адпаведна, на парламенцкіх выбарах 2000 года нарэзаныя новыя выбарчыя акругі, абраныя акруговыя выбарчыя камісіі. Цэнтрам нашай выбарчай акругі з'яўляецца горад Жыткавічы.

Можна з вялікай доляй упэўненасці сказаць, што, згодна з традыцыямі савецкіх часоў, незалежны петрыкаўскі кандыдат, нават калі б ён і быў вылучаны жыхарамі горада ці раёна, наўрад ці зможа перамагчы на выбарах, бо гэтыя пытанні не заўсёды вырашаюцца ў нас самімі выбаршчыкамі.

Новы выбарчы Кодэкс РБ надае ў гэтай справе такія шырокія паўнамоцтвы выканаўчай уладзе,а ўплыў кіраўнікоў прадпрыемстваў, дырэктараў і старшынь калгасаў і саўгасаў на працаўнікоў такі магутны, што найбольшыя шансы на абранне дэпутатам будзе мець кандыдат, падтрыманы выканаўчай уладай.

Такі кандыдат ужо ёсць. Па інфармацыі, атрыманай ад нашага жыткавіцкага супрацоўніка, кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў РБ на сёлетніх выбарах вылучаны дырэктар Нацыянальнага парка"Прыпяцкі" М.М. Бамбіза. Ён з'яўляецца буйным, па нашых масштабах, служачым сістэмы Адміністрацыі Прэзідэнта РБ. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова паглядзець на шыльды, што скрозь вісяць на лясных дарогах, што вядуць на тэрыторыю Нацпарка альбо ЭЛОХ: "Упраўленне справамі Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Плошча гэтых двух навукова-вытворчых прадпрыемстваў ( трэба прызнаць - больш вытворчых, чым навуковых) займае значную частку Жыткавіцкага, Петрыкаўскага і Лельчыцкага раёнаў, і нават асобныя лясніцтвы Калінкавіцкага раёна. Перапрацоўка драўніны на прадпрыемствах Нацпарка і ЭЛОХа вядзецца ў буйных масштабах і дае вялізныя даходы. Па некаторых даных, бюджэт Жыткавіцкага раёна на 35-40% складаецца з адлічэнняў Нацпарка.

У Петрыкаўскім раёне адпаведна каля 15%. Нам вядома, што асноўныя даходы ад дзейнасці названых структур мінаюць дзяржаўны бюджэт і паступаюць ва ўнебюджэтны Фонд Прэзідэнта РБ, але гэта ўжо іншая справа. Такім чынам, Нацыянальны парк мае ўласную навуковую базу, уласную прамысловасць, уласныя фінансы і уласныя узброеныя сілы (ахова тэрыторыі), прадстаўнікі якіх часцяком называюць сябе "працаўнікамі аховы Прэзідэнта". Ясная справа, што кіраўнік такой буйной і ўплывовай структуры будзе актыўна падтрыманы выканаўчай уладай, якая ў многіх выпадках залежыць ад яго.

Сёлетнія выбары маюць і яскравую адметную рысу: заканчваюцца афіцыйныя паўнамоцтвы абранага ў 1995 годзе Вярхоўнага Савета РБ. Як бы там ні было, якой бы "большасцю" галасоў, пры дапамозе якіх метадаў ні вырашаліся б пытанні павялічэння на два гады паўнамоцтваў А.Р.Лукашэнкі ў 1996 г., застаецца факт: сённяшняя Палата прадстаўнікоў не абраная, а прызначаная Прэзідэнтам. Значная частка абраных у 1996 годзе дэпутатаў ВС РБ была пазбаўленая сваіх паўнамоцтваў заўчасна і вельмі сумнеўным шляхам. Выбаршчыкі Петрыкаўскай выбарчай акругі, як і многіх іншых акруг на Беларусі, напрацягу 4-х гадоў не мелі свайго прадстаўніка ў вышэйшым заканадаўчым органе дзяржавы, хоць дэпутат В.М.Герасіменка і падаваў у свой час заяву аб уключэнні яго ў склад Палаты.

Гэтая ненатуральная сітуацыя выклікала вельмі сур'ёзныя палітычныя і эканамічныя наступствы для Беларусі. Сусветная грамадскасць са здзіўленнем назірала, якім чынам можа існаваць дзяржава, у якой адсутнічаюць органы выканаўчай, заканадаўчай і мясцовай ўлады, якія не адпавядаюць міжнародным стандартам. У значнай ступені былі парушаныя, а ў многіх выпадках спыненыя міждзяржаўныя палітычныя і эканамічныя суадносіны. Сёння Беларусь можа "ганарыцца" толькі кантактамі з краінамі, якія фактычна з'яўляюцца найбяднейшымі і слабаразвітымі. Унутранная напружанасць не сціхае ў краіне ўжо працяглы час. Грамадзяне замест таго, каб, вобразна кажучы, дабівацца ад каровы вялікіх надоеў, вымушаныя вырашаць пытанне, якога колеру сцяг павінен над гэтай кароваю вісець. У выніку карова дае 900 літраў малака на год замест 8000 - 10000, як, напрыклад у Польшчы.



Асабіста я лічу польскія дасведчанні найбольш удалымі і блізкімі для Беларусі. І не толькі ў палітычным сэнсе, там жа кіруюць былыя камуністы! Пяць гадоў таму долар ЗША каштаваў 25500 злотых і 11500 беларускіх рублёў. Сёння (без уліку дэнамінацый) 45800 і 1.000.000! Гэта азначае, што ад 96-га беларуская эканоміка няспынна "падала", а польская няспынна расла . Не выключана, што праз некалькі месяцаў на нашае пытанне: "На колькі гадоў Беларусь адстала ад Польшчы?" нам адкажуць: "Назаўсёды." Вось гэтае пытанне я б лічыў сёння галоўным.

Пазіцыя апазіцыі, прабачце за каламбур. Практычна ўсе апзіцыйныя партыі абвясцілі намер правесці актыўны байкот выбараў. Гэтае рашэнне грунтуецца на тым, што палітычны рэжым ў Беларусі з'яўляецца нелегітымным. Пры гэтым галоўнымі довадамі называюцца вынікі рэферэндуму 1996 г. і іх наступствы. Са свайго боку ўлады абвясцілі, што асобы, якія будуць заклікаць да байкоту выбараў, будуць пакараныя. Да гэтага трэба дадаць,што Еўрапейская Камісія,адмовіўшыся накіраваць міжнародных назіральнікаў на восеньскія выбары ў Беларусі, яшчэ раз падкрэсліла, што беларускае выбарчае заканадаўства не адпавядае міжнародна прызнаным стандартам у гэтай галіне. Тым не менш, Еўрасаюз накіроўвае на выбары групу тэхнічных экспертаў, якія дадуць канчатковую ацэнку выбарчай кампаніі.

Рашэнне ЕС стварыла вельмі цікавую сітуацыю.З аднаго боку апазіцыя, зацікаўленая ў эфектыўным байкатаванні выбараў, павінна паказаць сваю сілу і ўплыў на грамадства, тады яна замацуе свае пазіцыі ў Парламенцкай Асамблеі Еўропы, а магчыма, зможа перамагчы ненавісны для яе рэжым. З другога боку Ўрад РБ вельмі зацікаўлены ў тым, каб сусветная супольнасць прызнала вынікі выбараў. Колькі б мы ні казалі, што "за цывілізаваным светам мы не пойдзем", а грошы для развіцця эканомікі патрэбны, і ўзяць іх больш няма дзе,бо ўсе нашы "сябры", уключаючы Расію, на дзіва бедныя. Скажам, для прыкладу, увесь бюджэт Расіі складае каля 22 міль-

*(працяг на стар. 5)*

З пачаткам верасня ў петрыкаўскіх магазінах прапалі цыгарэты. Ні табе "Прымы", ні "Астмы", ні "Гродна". 3-га верасня яшчэ быў там-сям "Беламор". Потым некалькі дзён не было тытуню ўвогуле, адны запалкі. Гэтак здараецца ўжо не ў першы раз. І што цікава, пасля кожнага такога перапынку тытунёвыя вырабы ізноў з'яўляюцца ў продажы, але ўжо па новай, больш высокай цане. Што б гэта магло азначаць? Можа наш каапторг вырашыў перыядычна змагацца супраць курэння тытуню і дапамагчы Міністэрству аховы здароў'я? Яно, канечне высакародная справа, толькі рызыкоўная. Я так думаю, што калі такую "барацьбу " зацягнуць месяцы на 3 – 4, то могуць быць даволі непрыемныя наступствы. Некаторыя думаюць, што СССР у свой час развалійся з-за Ельцына ды Шушкевіча, а я дык успамінаю больш Гарбачова і Лігачова, ды іхнюю праграму барацьбы з п'янствам, распачатую ў 1985годзе. Там было ці не 11 пунктаў: і пра культуру, і пра безалкагольныя напоі, і пра нейкае там развіццё невядома якіх галінаў гаспадаркі. Праўда, з усёй праграмы камуністы па сваёй звычцы выканалі толькі тое, што на шкоду людзям: знішчылі вінаграднікі на Каўказе, ў Малдавіі і на Крымскім паўвостраве. Ды яшчэ арганізавалі масавы "хапун" у магазінах і проста на вуліцы, калі хто ішоў у рабочы час паблізу крамы. А якія бойкі былі арганізаваныя праз гарбачоўска-лігачоўскую праграму каля віна-гарэлачных магазінаў! Проста штодзённы чэмпіянат СССР па каратэ і здабычы выпіўкі. А ўжо што карупцыі было! Гэта ж ясна: любы дэфіцыт – залатое дно для гандляроў. Карацей, я так думаю, што, як толькі рабочы клас і працоўная інтэлігенцыя перасталі атрымліваць сваю бутэльку, адразу і прамысловасць, і сельская гаспадарка сталі колам. Бюджэт згубіў такія вялізныя грошы, што гэтую дзіру ўжо ніякімі "нафтадоларамі" заткнуць не ўдалося.

Народ гэтага не дараваў, і пры першым жа выпадку прагаласаваў супраць камуністаў. Вось тады і з'явіліся на самых высокіх пасадах тыя, каго вінавацяць у развале СССР. Так што, калі дастаткова нстойліва пазбаўляць курцоў іхняе шкадлівае асалоды, то усякае можа цытатніку напісаў: "Калі сядзець на беразе ракі дастаткова доўга, то можна дачакацца, што міма праплыве труп твайго ворага". Гэта не пра цыгарэты, а пра адмыслова створаную сітуацыю.

Вяртаемся ў Петрыкаў. Дзякуй Богу і каапторгу, 7-га верасня ў продажы было аж 4 (!) гатункі цыгарэтаў: "Прыма", "Аст...ра", "Мінск"і "Гродна". І цэны не змяніліся. З гарэлкаю то ў нас ужо даўно ўсё ў парадку, нават на прадпрыемствах дзень атрымання заработнай платы называюць "днём эпідэміі", бо цэльнымі калектывамі людзі йдуць у забягалаўкі. І дзе падзеліся тыя "таварыствы цвярозасці"? У мяне значок такі і сёння ляжыць.

А ўсё ж цікава, чаму так адбываецца ў Петрыкаве? Можа гэткія ж перабоі з тытунём ва ўсёй Беларусі, ці Петрыкаў такі ўнікальны горад, што роўнага яму больш няма? Тут можна меркаваць па-рознаму: падвяло планаванне, а можа транспарту не хапіла. Не выключана і такое: па магазінах прайшла чутка, што будуць падвышаны ў чарговы раз цэны на тытунь, вось яны і прыхавалі тавар на дзень-другі. А што? Уявіце сабе – магазін прадае за дзень, скажам .... пачак той жа "Астмы" па ... тысяч. Даведайся пра чарговае падаражанне, прытрымай тытунь перад тым на ... дзён – і маеш цалкам неблагі прыбытак!

У любым выпадку справа тут сумнеўная: альбо працаўнікі недобрасумленна выконваюць свае абавязкі, альбо кваліфікацыі ім не хапае, каб клапаціцца пра бесперабойны гандаль, альбо наадварот - аж занадта кваліфікаваныя, калі хочуць нешта пакласці ў сваю кішэню. Відаць, лозунг што вісіць над хлебным магазінам, адлюстроўвае самую існасць працы каапторгу: "Галоўная задача – палепшыць абслугоўванне *сваіх* пайшчыкаў".

Я ж не іхні...

***Язэп з падгор'я***

ад рэдакцыі:

*Мы не падзяляем поўнасцю думкі сп. Язэпа. Аднак значная доля праўды ў яго разважаннях ёсць. Мы правялі кароткае даследванне, якое тычыцца забеспячэння Петрыкава і раёна ў асноўныя харчовыя тавары. Вынікі глядзіце ў табліцы на стар. 7*

## МІНФІН ПАПЯРЭДЖВАЕ: АДЗІН З САМЫХ ПРЫБЫТКОВЫХ ТАВАРАЎ - Т Ы Т У Н Ь

# СУДЫ І ПРЫСУДЫ

*(насустрач выбарам)*

Грамадзянін Л., Петрыкаў, 23 гады. "Прыватызаваў" на ***дзяржаўным*** прадпрыемстве акумулятар. Урон ацэнены на суму каля 50 мільёнаў рублёў. Артыкул 87 частка 2 Крымінальнага кодэксу РБ. Прысуд: 5 гадоў зняволення ў калоніі агульнага рэжыму, асуджаны ў 1999 годзе.

Грамадзянін М., в. Слінкі, 22 гады. Падчас рамонту камбайна ў ***калгасе*** "знайшоў" у бункеры каля 3-х мяшкоў не ссыпанага праз камбайнера зерня, якое і занёс дамоў. Урон ацэнены на суму каля 10 мільёнаў рублёў. Артыкул 87 частка 2 Крымінальнага кодэксу РБ. Прысуд: 2 гады 6 месяцаў зняволення з абавязковым прыцягненнем да працы (Мазырская "хімія"), асуджаны ў 1999 годзе.

Грамадзянін Н., в. Навоселкі, каля 60 гадоў. Абрабаваў ***прыватны*** дом. Урон ацэнены на суму каля 16 мільёнаў рублёў. Артыкул 87 частка 2 Крымінальнага кодэксу РБ. Прысуд: 1 год умоўна. Асуджаны ў 1999 годзе.

Прынцыпова аднолькавыя злачынствы, той самы артыкул КК РБ. І прынцыповая розніца: за кражу ў дзяржавы прысуд значна больш цяжкі.

Мімаволі ўзнікае думка, што суд заклікае грамадзян: "Крадзіце не ў дзяржавы, а ў прыватных асоб, прысуд будзе мяккі." А мы здзіўляемся, што крадуць куры, парсюкоў, рэчы ды грошы ў прыватных будынках, рабуюць дачы, выкопваюць гароднiну і г.д., усё, што набытае ці нарыхтаванае цяжкай працаю і так збяднелага люду.

Так і будзе надалей, пакуль Канстытуцыя, як у нармальных краінах, не будзе пачынацца з артыкула: "Прыватная маёмасць святая і недатыкальная." І ня трэба думаць, што "прыватнае" - гэта толькі заводы, банкі, фермерскія гаспадаркі (хоць бы іх болей было ў нас!), але і твая хата, і твае соткі, і нават шкляная банка, якую спёр з плота сусед-п'яніца.

Можа, патрабаванне ініцыятывы ўнясення такой папраўкі у тэкст Канстытуцыі павінна стаць наказам выбаршчыкаў для дэпутата Палаты прадстаўнікоў РБ, якога павінны абіраць 15 кастрычніка?

Бо ў іншым выпадку трэба будзе падумаць, ці не варта падтрымаць заклік апазіцыі аб байкоце выбараў.

***Федар Мікалаеў.***

К

(заканчэнне. пачатак на стар. 2)
ярдаў долараў, а ЗША такую суму выдзялілі з федэральнага бюджэта толькі на нейкія эксперыменты па вывучэнні хвароб буйной рагатай жывёлы. Спробы навязаць нейкія карысныя для Беларусі эканамічныя кантакты на "саміце тысячагоддзя" у ААН закончыліся няўдачай. Усё гэта накладае не вельмі аптымістычнае адценне і на парламенцкія 2000, і на прэзідэнцкія выбары 2001 года.

Што тычыцца нашай выбарчай акругі, то можна сцвярджаць, што апазіцыя не мае сіл для рэалізацыі рашэння аб байкоце. Больш таго, нават шчыльнае назіранне за ходам выбараў, калі яно будзе арганізаванае, не дасць чаканых вынікаў. Справа ў тым, што буйныя парушэнні выбарчага заканадаўства адбываюцца звычайна тады, калі існуе рэальная канкурэнцыя паміж кандыдатамі у дэпутаты.

Паколькі практычна ўсе вылучаныя па Жыткавіцкай акрузе кандыдаты з'яўляюцца праўрадавымі, барацьба паміж імі будзе насіць фармальны характар. Улада мае унікальную магчымасць правесці выбары ў поўнай адпаведнасці з якімі заўгодна дэмакратычнымі нормамі: вынік будзе на яе карысць у любым выпадку. Але гэта не азначае, што мы атрымаем такое жаданае для нас прызнанне дэмакратычнага свету...

***Андрэй Яўтуховіч***

## Замежная прэса пра выбары на Беларусі

**Ніва**

Галоўнай палітычнай тэмай на Беларусі зараз з'яўляюцца будучыя выбары ў лукашэнкаўскую "палату", ці як гавораць улады - у "парламент". Апошнім вельмі хочацца, каб выбары былі прызнаны легітымнымі цывілізаваным светам, і як наступства гэтаму быў прызнаны "парламент" і ўсе рашэнні ім прынятыя. Для гэтага неабходна ў першую чаргу прысутнасць замежных назіральнікаў на выбарах і ўдзел у іх апазіцыі. Але рэжым не хоча ісці ні на якія кампрамісы. У выніку дэлегацыя Парламенцкай Асамблеі Еўропы, якая знаходзілася ў Беларусі з 31.07 па 4.08 прыняла рашэнне не накіроўваць сваіх назіральнікаў на выбары. Што да апазіцыі, дык яшчэ 2 ліпеня IV Кангрэс дэмакратычных сіл прыняў рэзалюцыю, згодна якой дэмакратычныя партыі не будуць прымаць удзелу ў выбарах як арганізацыйныя структуры і не будуць вылучаць сваіх сяброў у якасці незалежных кандыдатаў у выпадку невыканання ўладамі чатырох асноўных умоў (наданне парламенту рэальных паўнамоцтваў, прывядзенне выбарчага заканадаўства ў адпаведнасць да еўрапейскіх стандартаў, забеспячэнне доступу апазіцыі да дзяржаўных СМІ і адмова ад палітычных рэпрэсій). На кангрэсе амаль усе выступоўцы казалі, што ўдзел у выбарах, якія будуць праходзіць па сцэнарыі ўлад, можа прывесці да страты незалежнасці Беларусі.

Рэжым на саступкі не пайшоў. Дзяржаўная прапаганда пачала даводзіць, што выбарчы закон у Беларусі самы дэмакратычны і апазіцыя (акрамя "радыкальнай") будзе выстаўляць сваіх кандыдатаў, калі не ад партый, дык як незалежных. Хутка пачалі шукацца кандыдаты на "апазіцыянераў". Імі сталі камуністы і ліберальныя дэмакраты. Але дэмакратычная апазіцыя сцвярджае, што галоўнае не выбарчы закон, а - куды выбіраюць. Лукашэнкаўскі "парламент" не мае ніякіх рэальных паўнамоцтваў. Самастойна ён нічога вырашыць не можа. У такой сітуацыі прысутнасць прадстаўнікоў апазіцыі безсэнсоўная і толькі дасць магчымасць легалізаваць рэжым.

Аднак улады напэўна добра ведаюцьнекаторых "шчырых беларускіх патрыётаў". Зараз ім не трэба будзе шукаць "апазіцыю". Яна сама ідзе да іх. Днямі ЦК БСДП (НГ) прыняў рашэнне не перашкаджаць сваім сябрам вылучацца незалежнымі кандыдатамі. Адначасова ЦК сцвярджае, што не будзе вылучаць кандыдатаў ад партыі, і заклікае міжнародныя арганізацыі не дасылаць сваіх назіральнікаў на выбары. Сацыял-дэмакраты быццам бы хочуць выкарыстацьвыбары для папулярызацыі ідэй партыі сярод насельніцтва і выявіць парушэнні, якія будуць рабіць улады. Час пакажа, якім чынам сацыялісты будуць тлумачыць людзям пра нелегітымнасць "палаты" і адначасова агітаваць за сваіх кандыдатаў у яе.

Пачаліся ваганні ў АГП. Але, згодна з паведамленнямі ў друку, "грамадзяне" ставяць перад сваімі сябрамі, жадаючымі паўдзельнічаць у "выбарчым фарсе" (*словы з рэзалюцыі Кангрэсу дэмакратычных сіл - аўт.*), прыпыніць сяброўства ў партыі.

Магчыма, на рашэнні БСДП (НГ) і АГП паўплывала дзейнасць кіраўнікоў місіі АБСЕ ў Беларусі, сп. Віка і Рывальe, якія напрыканцы ліпеня ездзілі па рэгіёнах і ўгаворвалі апазіцыю прымаць удзел у выбарах. Віка х Рывальe зразумець можна. Магчыма, ім надакучыла разбірацца ў праблемах Беларусі з яе дзіўным народам і непаслядоўнай апазіцыяй. Трэба давесці справу хоць да якога -небудзь заканчэння і з'ехаць спакойна дахаты. Але ў якую гульню вырашылі пагуляць некаторыя апазіцыянеры?



Нядаўна беларускае тэлебачанне з задавальненнем паведаміла, што кандыдатам у дэпутаты стаў "адзін з лідэраў апазіцыі" Генадзь Грушавы. А як пераканаўча казаў спадар Грушавы пра каштоўнасць незалежнасці на Усебеларускім з'ездзе за незалежнасць 29 ліпеня!

***Зміцер Кісель***

**Ніва**, Беласток, №35, 27.08.2000

*(друкуецца са скарачэннямі)*

### НАШЫ ПРАБАЧЭННІ

*Чытачы, пэўна, звярнулі ўвагу на тое, што ў першым выпуску газеты былі зафарбаваныя ў чорны колер некалькі радкоў на стар. 4. Праз неўвагу карэктара ў сказе былі прапушчаныя некалькі слоў, і ён набыў змест, які б мог абразіць групу паважаных грамадзян горада. Каб не друкаваць тыраж нанова, мы вырашылі зліквідаваць радкі ўручную. Прашу прабачэння ў чытачоў за сапсаваны знешні выгляд газеты.*

*А.Яўтуховіч*

# Amnesty INTERNATIONAL

## На Беларусі

15 - 18 верасня ў Маскве адбылася сустрэча груп Міжнароднай Амністыі з Расіі, Беларусі, Літвы, Малдовы і Кыргізстана. На сустрэчы разглядалася пытанне аб удзеле груп МА названых краін, пачынаючы з кастрычніка б.г., у Трэцяй сусветнай кампаніі МА супраць катаванняў (CAT - 3).

Папярэднія дзве кампаніі супраць катаванняў былі эфектыўнымі і выніковымі. Перш за ўсё яны паказалі, што грамадскі рух простых людзей можа вельмі моцна паўплываць на палітыкаў, прымусіць іх прыслухоўвацца да сапраўднага інтэрнацыянальнага ціску на ўрады і нават на такую арганізацыю, як ААН. Не менш важным вынікам было тое, што ўдзельнікі міжнародных акцый адчулі сваю сілу, пачала імклівa разбурацца формула: "А што я магу зрабіць са злом?"

У выніку CAT 1, распачатай МА ў снежні 1972г., у ААН паступіла звыш мільёна подпісаў, сабраных у многіх краінах свету. Сусветная грамадскасць жорстка асуджала катаванні, якія прымяняліся практычна ва ўсіх краінах свету. У зваротах да Генеральнай Асамблеі ААН ставілася патрабаванне прыняць дзейсныя крокі па асуджэнню катаванняў і прыняццю дакументаў, якія б мелі абавязковую юрыдычную сілу для дзяржаў - удзельніц ААН.

У 1974 г. ААН былі прынятыя Дэкларацыя супраць катаванняў, адпаведная Канвенцыя, Кодэкс паводзін службовых асоб па падтрыманні правапарадку, Прынцыпы медыцынскай этыкі і іншыя міжнародныя пагадненні супраць катаванняў. У міжнародным грамадскім руху з'явіліся некалькі спецыялізаваных няўрадавых арганізацый (NGO) па праблемах катаванняў, былі створаныя рэабілітацыйныя цэнтры для ахвяр катаванняў.

Кампанія CAT 2 (пачатак - кастрычнік 1983 г.) дала яшчэ больш канкрэтныя вынікі: былі прынятыя Еўрапейская, Міжамерыканская, Афрыканская і іншыя рэгіянальныя канвенцыі. Нягледзячы на гэта, многія краіны яшчэ не адмовіліся ад легальнага альбо паўлегальнага прымянення катаванняў, якія перыядычна прымяняюцца ў 150 краінах свету, а распаўсюджаныя, як рэгулярная з'ява - у 70 краінах. Пры гэтым у 80 краінах людзі гінулі ў выніку катаванняў.

Міжнародны Сакратарыят МА прыняў рашэнне аб правядзенні чарговай кампаніі CAT 3, якая пачнецца ў кастрычніку 2000 года. Афіцыйны лозунг CAT 3 - "Не маўчы, калі катуюць!" Больш дакладны пераклад можа гучаць, як: "Зрабі крок, каб спыніць катаванні!" Адной з галоўных задач кампаніі з'яўляецца давядзенне да свядомасці грамадзян усіх краін свету, што катаванні з'яўляюцца міжнародным злачынствам. Ня можа быць абыякавым да іх ні адзін чалавек на свеце. І калі становяцца вядомымі факты катаванняў у адной краіне, то на барацьбу з імі трэба мабілізаваць весь свет, усіх людзей на зямлі. Толькі рашучымі пратэстамі і актыўнымі дзеяннямі кожнага чалавека і ўсіх разам можна спыніць гэтае агіднае з'явішча, а ініцыятары і ўдзельнікі катаванняў не павінны застацца непакаранымі.

Удзельнікі Маскоўскай сустрэчы МА прыводзілі жудасныя факты аб прымяненні катаванняў у краінах СНГ. Трэба адзначыць, што групы МА ў Расіі, Малдове, Літве маюць значна большы вопыт працы і больш высокі статус у параўнанні з Беларуссю, дзе рух МА толькі пачынаецца. Напрыклад, сябра Літоўскай групы МА сп. Кастыціс Рымкевічус працуе ў Міністэрстве грамадскіх і Адміністрацыйных рэформ. Групы МА з Масквы і Томска маюць свае навучальныя цэнтры і актыўна працуюць з моладдзю. Абмен інфармацыяй аб метадах працы ў рамках Мандата Міжнароднай Амністыі быў вельмі карысны для прадстаўнікоў беларускіх груп МА.

На заканчэнне Маскоўскай сустрэчы была арганізаваная публічная акцыя ў абарону ахвяр катаванняў у Аргенціне, Демакратычнай рэспубліцы Конга і іншых краінах. Акцыя праводзілася на старым Арбаце. За дзве гадзіны пад петыцыямі ў адрас кіраўнікоў і ўрадаў краін дзе адбываліся катаванні, сабрана некалькі соцень подпісаў грамадзян Расіі, жыхароў Масквы. Былі сярод падпісаўшых петыцыю і беларусы, якія жывуць у Расіі.

*(рэдакцыя ўдзячная сп. **Віктару Пеставу** за падрыхтоўку рэпартажа)*



*"Дарога катаванняў". У кожным кроку - назва краіны, дзе ўжываюцца катаванні. Зрабі крок, каб спыніць іх!*




*Жыхарка Масквы Таццяна, былая гамельчанка, прыйшла падтрымаць акцыю МА*




*Каля плаката беларускай дэлегацыі.*

*працяг на стар.7*

## ВАША БЕСПЛАТНАЯ АПТЕКА

У вас нет миллионов на лекарства? Смотрите под ноги!

Закончилась благодатная летняя пора. Наступает время осенне-зимних заготовок лекарственных растений, в основном - корней и плодов. Сегодня мы вновь рассказываем о растениях, заготовка которых не требует специальных знаний и технологии, и возможна в неограниченных количествах.

Мы часто поминаем недобрым словом шаровидные колючие семянки лопуха, от которых время от времени приходится очищать одежду или, что гораздо сложнее, прическу. Надо полагать, научное описание лопуха приводить не требуется. Однако следует сказать, что в Беларуси произрастают три разновидности лопуха: **Лопух большой; лапух вялікі, дзяды - Arctium lappa L.**, о котором сегодня речь, а также **лопух паутинистый** - *A. tomentosum Mill.* и **лопух малый** - *A. minus Bernh.*. От лопуха большого они отличаются рядом признаков:

1. Внутренние листочки обертки кверху расширенные, с прямым остроконечием; отгиб венчика снаружи с железками; обертки паутинистые ..........**Лопух паутинистый.**
2. Цветоносные корзинки расположены щитком, на длинных цветоносах ..... **Лопух большой.**
3. Корзинки расположены кистью, на коротких цветоносах или сидячие ....... **Лопух малый.**

В лекарственных целях применяются корни лопуха - *Radix Bardanae.* Их заготавливают в сентябре-октябре первого года вегетации, когда лопух образует лишь прикорневые листья (стебель образуется на втором году вегетации). Корни второго года деревянистые и в лекарственных целях непригодны. Корни первого года съедобны, их можно есть сырыми, варёными, печёными и жареными, класть в суп вместо картофеля, добавлять в котлеты и лепешки.

Выкопанные корни очищают от земли, моют и отрезают надземные части. Снимают кожицу, разрезают на куски 10-15 *см* длины. Толстые корни разрезают продольно. Сушат на воздухе или в проветриваемом помещении.

В медицинской практике корни применяются как мочегонное и потогонное средство, наружно - при экземе, угрях, фурункулёзе, при выпадении волос. Употребляются в виде отваров, настоев, мазей, репейного масла ( настой корней лопуха на миндальном и оливковом масле) как средство для улучшения роста волос.

Приготовление настоев:

1. 2 чайные ложки измельченных корней на 2 стакана кипятка, оставляют на ночь, процеживают, принимают по 2 ст. ложки через 2 часа.

2. отвар:

Rp.: Decocti rad. Bardanae ex 20,0 - 200,0

D.S. По 1 ст. ложке 3 - 4 раза в день.

В народной медицине чаще применяется **лопух паутинистый.** Отвар корней используют при геморрое, заболеваниях почек, отвар на молоке дают детям при диатезе. Водным отваром моют голову для укрепления волос; корень трут на терке, смешивают с салом и смазывают сыпь на голове, используют от экзем .Из свежих листьев делают компрессы при ревматизме, опухолях суставов, любых опухолях; при высокой температуре обкладывают всего больного свежими листьями, меняя их.

Отвар листьев **лопуха малого** , собранных во время цветения, пьют как чай при злокачественных опухолях; от бельма, бородавок, ран, нарывов, заболеваний печени.

Вот вам и сорняк!

**Боярышник колючий; баярышнік калючы, глог - Crataegus oxyacantha L.**

В Петриковском районе не очень распространен, но хорошо известен. В юго-западной части Беларуси (Брест, Кобрин, Антополь) часто образует сплошные заросли. Кустарник 2,5 - 5 м высоты с колючими годичными побегами. Форма листьев изменчива, 3-х, 5-ти 7-ми лопастная. Цветки в сложных рыхлых щитках, белые, с 5 лепестками. Плоды красные, продолговатые, 10 - 15 мм длины, с одной сжатой с боков косточкой. Цветет в июне, плоды созревают в сентябре.

С лекарственной целью используются плоды и цветки боярышника. Плоды собирают вполне зрелыми (конец сентября-октябрь). Сушат на солнце или в сушилках. Цветки собирают во время цветения и сушат в тени, раскладывая тонким слоем.

В медицинской практике применяют экстракт плодов, который входит в состав комплексного препарата "Кардиовален". Препараты боярышника понижают возбудимость нервной системы, усиливают кровообращение в коронарных сосудах сердца и сосудов мозга, понижают кровяное давление (отвар цветков), снимают болевые ощущения, чувство тяжести и сдавливания в области сердца, оказывают тонизирующее действие на сердечную мышцу. Экстракт боярышника назначают при функциональных расстройствах сердечной деятельности, при ангионеврозах и начальных стадиях гипертонической болезни.

Rp. Extr. Crataegi fluidi 25.0

D.S/ По 25-40 капель 3-4 раза в день.

В народной медицине отвар цветков пьют при повышенном давлении крови, головной боли, заболеваниях сердца; отвар плодов - при заболевании сердца.

Аналогичными лечебными свойствами обладает **Боярышник отогнуточашелистиковый - Crataegus curvisepala Lindm.**

***Людмила Зубарь***

## Конкурсы

### Жаночая праграма

*Студэнткі выпускных курсаў, якія навучаюцца паза межамі Злучаных Штатаў Амерыкі, запрашаюцца да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне ад Амерыканскай асацыяцыі універсітэцкіх жанчын стыпендыі ў памеры $16 860 на заканчэнне навучання ў іншай краіне.*

Стыпендыя ўключае падтрымку: поўнага навучання на выпускным курсе альбо ў аспірантуры па ўсіх дысцыплінах у межах аднаго года; вывучэнне прадметаў, важных для ўнясення зменаў у жыццё жанчын і дзяўчат.

Дадатковую інфармацыю і форму заяўкі можна знайсці ў інтэрнэце: http://www.aauw.org/3000/fdnfelgra/internat.htm1

альбо запытаць па паштоваму адрасу:

AAUW
Educational Foundation
c/o Customer Service Center
2201 Dodge St.
Iowa City, IA 522434030
**Phone: 319/3371716**

*(Інфармацыя прыйшла ў рэдакцыю са спазненнем, разлічаная на скарыстанне да пачатку 2000 -2001 навучальнага года. Таму мы раім студэнтам і аспірантам спраўдзіць прыведзеныя адрасы і тэлефоны. Цалкам верагодна, што Асацыяцыя амерыканскіх універсітэцкіх жанчын праводзіць падобныя конкурсы штогод - рэд.)*



*Масквічы падпісваюць петыцыі супраць катаванняў, якія будуць накіраваны ў адрас кіраўнікоў краін.*



***Увесь свет забруджаны плямамі катаванняў. Спынім іх!***

# ЗАЗІРНЕМ У МАГАЗІНЫ

## *(журналісцкае даследванне)*

У сувязі з лістом сп. Язэпа мы правялі параўнальны агляд колькасці і якасці харчовых прадуктаў у магазінах дзяржаўнай і белкаапаўскай сістэм гандлю Петрыкава і Гомеля па стану на 14 верасня. Выявілася, што Петрыкаў забяспечваецца намнога горш. Тыя ж тытунёвыя вырабы ў Гомелі прадстаўленыя 10-цццю гатункамі цаною ад 118 да 481 руб., ў тым ліку "Гродна" - 2 гатункі (201 - 234 руб.), "Астра" - 3 гатункі і г.д. Увогуле магазіны каапторгу ў Петрыкаве ўяўляюць сабою тыповы прыклад манапольнага прымусовага гандлю з абмежаваным наборам прадуктаў і значнай нацэнкаю. Напрыклад "Гродна класічныя" у Гомелі каштуюць 234 руб., а ў Петрыкаве - 243 руб. за пачку, так што сп. Язэп гаворыць праўду.

Мы выбіралі не самыя шыкоўныя магазіны ў Гомелі ў т. зв. "залінейным" раёне. У Петрыкаве "кантрольнымі кропкамі" абраны 4 магазіны ў цэнтры горада. Улічваліся тавары толькі айчыннага і СНГоўскага вырабу. Не ўлічваліся дэлікатэсныя тавары цаною звыш 6000 руб. Даходы прыводзяцца для канкрэтнай асобы, а не сярэднестатыстычныя. Кожны можа пералічыць сваю пакупніцкую здольнасць у адпаведнасці з уласнай кішэняю.

*таб.* 1

| н а з в а   т а в а р у | *колькасць гатункаў і цана ад - да, руб.* | |
|---|---|---|
| | Гомель | Петрыкаў |
| хлеб разам з батонамі | 9 гат., 164 - 240 | 4 гат., 190 - 319 |
| крупы і макаронныя вырабы | 41 гат., 287 - 788 | 12 гат., 336 - 535 |
| малако і вырабы з яго | 12 гат., 98 - 489 | 8гат., 95 - 681 |
| рыба і кансервы рыбныя | 40 гат., 861 - 3579 | 3 гат., 515 - 2508 |
| птушка і вырабы з яе | 12 гат.,1020 - 1613 | няма "завозу" |
| сыры | 10 гат., 1472 - 2091 | 1 гат., 2461 |
| каўбасы вэндзаныя, вараныя | 21 гат. 1585 - 5600 | 4 гат., 2278 - 2774 |

*таб.* 2

| катэгорыя працаўнікоў | штомесячны даход, руб. | |
|---|---|---|
| | Гомель | Петрыкаў |
| настаўнік, адукацыя вышэйшая, стаж звыш 18 гадоў | 56000 | 21000 |
| кваліфікаваны рабочы на транспарце | 66000 | 42000 |
| пенсіянер, стаж звыш 40 год (у горадзе) | 30000 | 30000 |

Мы будзем аднаўляць табліцы штоквартальна. Запрашаем грамадзян удзельнічаць у складанні наступных табліц, у тым ліку і для базараў. ***Андрэй Яўтуховіч***

# *СТРАКАТЫЯ РАДКІ*

**Жнівень 2000 года** названы ў Расіі "чорным месяцам". Пачаўшыся з тэрарыстычнага акту ў раёне Пушкінскай плошчы ў Маскве, пасля катастрофы атамахода "Курск", ён скончыўся пажарам на Астанкінскай тэлевізійнай вежы, у якім загінула тры чалавекі. Пасля хлусні расійскіх вайскоўцаў падчас аварыі "Курска" вастрыня ўспрыняцця трагічных вестак праз расіян спала. Трагедыя ў Астанкіне выклікала не толькі спачуванне, але і новы анекдот: "Па даных вайсковай разведкі, Астанкінская тэлевежа загарэлася ў выніку сутыкнення з іншай тэлевежай. Лічыцца, што з амерыканскай альбо з ангельскай." **РС**, *9.09.2000*

**"Доктрина** информационной безопасности России", поддержанная В.Путиным, скорее напоминает устав гарнизонной службы по вопросам информации. Вспомните Грибоедова: "Я вам фельдфебеля в Вольтеры дам." Мы получили полковника." ***"Новые Известия"***, *Москва, 10.09.2000*

**У Кітаі пакараны смерцю** адзін з буйных партыйных чыноўнікаў Чэн Хэ Дзэ. Ён абвінавачваўся ў карупцыйнай дзейнасці. Сума шкоды, нанесеная дзяржаве, ацэнена ў 5 мільёнаў долараў.
**VOA**, *14.09.2000*

**18 верасня** быў на 30 мінут затрыманы рух цягнікоў на станцыі Калінкавічы. Невядомы чалавек кінуўся пад надыходзячы прыгарадны цягнік Гомель-Калінкавічы і загінуў на месцы. Колькасць самагубцаў на Беларусі за апошнія гады значна павялічылася, у тым ліку сярод моладзі. ***Ул.карэсп.***,*Калінкавічы.* *18.09.2000*

**Зацята змагаецца** за ўладу адзін з апошніх пракамуністычных дыктатараў Еўропы, вінавайца развязвання чатырох запар войнаў на тэрыторыі былой СФРЮ, наш "славянскі сябра" Слабадан Мілошэвіч. Прайграўшы на выбарах 24 верасня апазіцыйнаму кандыдату Воіславу Каштуніцу, які ўжо ў 1-м туры набраў абсалютную большасць галасоў, Мілошэвіч па старой звычцы ўсіх дыктатараў заняўся падтасоўкай вынікаў галасавання. Ён і, па яго загаду, выбарчая камісія Югаславіі настойваюць на правядзенні 2-га туру выбараў. На Захадзе лічаць, што Мілошэвіч, абвінавачваемы міжнародным судом у вайсковых злачынствах, можа пачаць пятую вайну супраць свайго народа, каб утрымацца пры ўладзе.

***Федар Мікалаеў***

# ПРА ЛЮБОЎ

## БЫХАЎСКІЯ КАМПЛІМЕНТЫ

(апавяданне Ганны Брыль з Гомеля)

Было гэта гадоў з дванцаць таму. Пасля аперацыі накіравалі мяне далечваццa ў Лётцы – знакаміты санаторый у Віцебскай вобласці. Стан мой быў цяжкі, ледзь варушылася. Ну, давез мяне з Гомля мой Валодзечка да месца, дапамог уладкавацца, ды, пабуськаўшы на развітанне, паехаў дамоў.

У адну палату са мною засялілася яшчэ адна Ганна, зямлячка з Пярэдзелак, што пад Лоевам. Такая самая бедалага, як і я: ледзь ногі цягае. Пачалі мы шукаць сабе "кавалераў", бо жанчына-адзіночка ў санаторыі, ведаеце, гэта ж непаразуменне, людзі смяяца будуць. А нам з Ганнаю такія кавалеры былі патрэбныя, каб не цягалі нас на танцулькі-гоцалкі, ды каб не здарылася так, што з хірургічнага стала трапіш пад іншага "лекара". Нам на той час не да таго было, дый Валодзечка мой чакае мяне з папраўкаю. Пакуль мы з Ганнаю гэтак разважалі, усе хлопцы сабе сяброўак знайшлі, паразбіваліся парамі, і мы засталіся дзве "бабыліхі" на ўвесь санаторый. Праз тыдзень прыехалі двое хлопцаў з Магілеўшчыны, спазніліся. От, і добра атрымалася: хочаш, не хочаш, а ні для іх, ні для нас нікога іншага не аказалася.

Я пасябравала з Пецям. Сімпатычны такі мужчынка, малады яшчэ, толькі за сорак , але ўжо пасля другога інфаркту. Твар круглы, сам невысокі, дык і я ж паўтары метры ў капелюшы і на абцасах. Хлопец вясёлы, кампанейскі, і размаўляе такой ужо прыемнай быхаўскай гаворкаю – ці не да кожнага слова дабаўляе "ку" альбо "ка". Наўмысна захацела і я гэтак прыгожа паразмаўляць – не атрымалася, а ў Пецечкі гаворка цячэ, як ручаіна журчыць, ды так лоўка атрымліваецца. І ўсё пра маму. Відаць, мамкін сынок быў мой Пеця, хоць і займаў нейкую пасаду на Быхаўскім гародніна-кансервавым заводзе.

Праз пару дзён ужо нам з Ганнаю работа пры нашых "кавалерах": гальштук адпрасаваць, альбо кашулю. А як жа, калі ўжо разам у кіно пайшлі , дык жа ж мой "мужчынка" павінен выглядаць як мае быць, мой гонар!

Пайшлі мы на возера купацца. Пеця штаноў сваіх шырачэзных не скідае. Пазірае навокал, ды ўздыхае: "Палеглі-ка гэтыя бабы-ку, як латкі па зямлі-ка-а-а", а сам усё да мяне прыглядаецца, за руку трымае, ды чырванее-сароміцца. Аж дзён праз пяць прарвало яго, і падараваў ён мне першы камплімент: "Гляжу-ка я на цябе-ку, Анько, баба ты, як усе-ка бабы, толькі сільна-ка ў таліі красівая-ка-а-а!" Ды гэтак са смакам паглядае самі ведаеце, куды. Ах ты, думаю, інфарктнічак мой-ка, толькі дыхаць пачаў пасля хваробы, а туды ж! Але прыемна, бо такога кампліментa я шчэ ў жыцці не чула, настаўнікі з нашай школы так не ўмеюць. Праз пару дзён ізноў: "Налілася ты-ка, Анько, як маладая-ку слівіна!" Тут ужо мяне аж захаланула, гэтак прыемна мне стала. Толькі чаму менавіта як слівіна? Ні табе яблык ці персік, а слівіна. Яшчэ праз пару дзён яны разам з Колем, сябрам другой Ганны, прыходзяць перад вячэраю, ды Пецечка, трошкі падумаўшы, кажа: "Анькі-ка, о Анькі! Мяне-ка мамка сюды адпраўляла-ка, дык сказала мне-ка: "Вазьмі, Пецечка, рублёў-ка чатырыста на тых-ку б...-ка." Дык я ўзяў-ку. Хадземце, хоць піва пап'ем-ку-у-у!" Мы з Ганнаю - ў рогат, паваліліся на ложкі, жываты трымаем, бо баліць, ня можна, швы ж могуць разысціся! А Пецечка мой вокам на нас лыпае, маўляў, чаго вы рагочаце, мо я што не так сказаў? Запрашэнне ёсць запрашэнне, пайшлі мы "на піва" і вельмі весела правялі час.



Ад'язджалі мы з Ганнаю на тыдзень раней за хлопцаў. Абмяняліся прэзентамі, выпілі шампанскага. Пецечка на развітанне такога нагаварыў, што мы ўсе са смеху плакалі.

А ўжо перад аўтобусам адвёў мяне ўбок, ды кажа: "Ты-ка, Анько, свайму-ка Валодзечку пра нашу любоў-ка не расказвай-ку, бо будзеш-ка свяркаць капытамі-ку цераз Доўск на Быхаў-ка-а-а." Я ў адказ толькі слязіну пусціла, моцна яго пацалавала, ды, ўваліўшыся ў аўтобус, смяялася да самага Віцебска.

Прыехаўшы дамоў, упала я перад Валодзечкам на калені, усё яму расказала. Смяяліся абодва, а я яшчэ запыталася, чаму гэта я павінна "свяркаць капытамі" менавіта цераз Доўск? Валодзечка і кажа: "Дурное ты, дурное! Твой Пецечка табе дакладны маршрут паказаў, бо з Гомеля на Быхаў дарогі іншай проста няма. Геній!"

Дзе зараз Пецечка, я ня ведаю. Пару разоў яму тэлефанавала, потым нашыя кантакты неяк спыніліся. Калі жывы, дай яму, Божа, добрага жыцця, такога, як і ён сам. Бо, ведаеш, сёння я такіх не бачу сярод мужыкоў, усё больш нахабныя ды хамаватыя. І гаворка ў іх нейкая пустая, усё "трасянкаю", ды пад п'янкаю, да кожнага слова не "ку", як Пецечка, а "бля" дабаўляюць. Лясне такі герой шклянку гарэлкі, і балбоча пустое. А і сярод маладых такой непасрэднасці і чалавечай цеплыні не хапае. Можа хаваюць яе, не паказваюць?

***Макар Бычкоўскі,*** *малюнкі Х. Бідструпа*

Как грустно мне: Вы мною не больны.
Цветаева могла бесплотной страстью
Залить весь мир. Мои же сны
Заполнены и солнцем, и ненастьем.

Мне нравится, что радость в Вас таится.
Мне очень нравится Ваш детский ералаш.
Мне страшно нравится, что можно в Вас влюбиться.
Мне так не нравится, что я ещё не Ваш!

Мне чудилось - мы с Вами повстречались.
Мне снилось - взял я Вас на абордаж!
Мне грезилось - мы дивно целовались.
Очнулся я - по-прежнему не Ваш.

Я знаю - не свести судьбу с судьбою.
Я знаю - нам не танцевать чардаш.
Мне горько знать, что Вы больны не мною.
Простите, милая, я знаю: я - не Ваш.

***А.Я.***

*Надрукавана ў выдавецкім цэнтры Гомельскага абласнога грамадскага аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы".*